

Захар Бірала нарадзіўся ў 1906 годзе ў вёсцы Раўнаполле на Міншчыне. Скончыў рабфак, пасля — педагагічны інстытут імя М. Горкага. У даваенны час працаваў настаўнікам у вясковай школе. Зараз ён — выкладчык мовы і літаратуры ў Мар'інагорскім сельскагаспадарчым тэхнікуме.

Літаратурнай дзейнасцю займаецца з сярэдзіны 30-х гадоў. Першы зборнік выйшаў у 1929 годзе пад назвай «Смех і радасць вёскі».

У гэтым зборніку сабрана лепшае з напісанага паэтам.



## НІ ЎДАВЕЦ, НІ ХЛОПЕЦ

Смех з яго, дый годзе,
Кінуў жонку, дзеці.
Валацугай ходзіць.
Блукае па свеце.

На лаўца такога
Жартаў, кпінаў хопіць:
— Вунь пайшоў дарогай
Ні ўдавец, ні хлопец!

— Сын цябе гукае,
Каб прыйшоў у госці!

— Кажуць, і другая
Не ўжылася штосьці...

Зноў рашыў жаніцца
Ды пайшоў у сваты,
Дзеўка казырыцца:
— Адыдзі, жанаты!

Да ўдавы прыбіўся
На бліны і сала.
Мала пажывіўся —
Ласуна пагнала.

Справы вось такія:
Дуру вельмі многа.
Цёткі кажуць: — Кіем
Ажаніць такога!

# ДВА СТАРЫЯ ПАЦУКІ

Быў ён хітры без навукі,
Што трапляла — краў і браў,
Добра ўмеў пагрэць ён рукі
Ля казённага дабра.

Масла, мяса, макарону
Нацягае, набярэ.
Зробіць быццам па закону,
І сам чорт не разбярэ.

Дакажы, што гэта кража?..
Не чапай яго, не руш.
А калі ды што — замажа,
Лёгка выкруціцца вуж.

Рэвізор наскочыў шпарка,
Выкрываць пачаў грахі,
Той за скварку ды за чарку —
На застолле пірагі...

Чаркі выпіўшы дачыста,
Злодзей злодзея пазнаў,
А як выпілі па трыста—
Злодзей злодзея абняў.

Адкупляўся за чужое
І заблытаў сцежкі воўк.

Але вось дабро людское,
Кажуць, вылезе праз бок.

Быў на днях цікавы, лоўкі
Фельетон пра іх такі:
Як папалі ў мышалоўку
Два старыя пацукі.

## ЧОРТ З ПІСТАЛЕТАМ

Плача горка маладзіца,
Слёзы льюцца,
Як з крыніцы.
— Ой, суседачкі, паверце,
Завяліся ў хаце чэрці...
Гэта ж дзіва, проста дзіва,
Да папа я вось хадзіла.
— О, дзіця святога бога,
Не палохайся нічога...
Пасвянціць патрэбна хату,—
Поп ёй кажа барадаты.
— Пасвянці,
Айцец наш мілы,
Ды пазбаў нячыстай сілы.
— Калі ласка,
Можна... можна...
Хай ратуе грэшных божа.
Акрапіў вадою хату,
Не за дзякуй, а за плату.
«Ну ўжо,— думала кабета,—
Вось цяпер зімой і летам
Буду жыць я без трывогі,
Як за пазухай у бога».
А праз месяц пад вялікдзень
Напалохаць і пакрыўдзіць
Чорт касматы і рагаты
Ноччу зноў прыйшоў у хату.

Кажа:
— Злазь, кабета, з печы,
Мне давай такія рэчы:
Залатыя ўсе пярсцёнкі,
Буталь моцнай самагонкі.
Не дасі — спалю будову,
Забяру свінню, карову,
А цябе,
Душа-кабета,
Я застрэлю з пісталета.
Цётка чорту паказала:
— Вунь у склепе ўсё схавала.
Чорт у склеп ускочыў скора,
Ды нагу зламаў на гора.
Лез назад, нібы з магілы,
Ды не вылез — мала сілы.
— Памажы ты мне, кабета,—
Як не моліць, просіць гэтак.—
Нічагуткі браць не буду,
Век цябе я не забуду.
Цётка склеп свой зачыніла.
— Каб ты здох, нячыста сіла!..
Ды хутчэй людзей пазвала,
Гэта цуда расказала.
З ліхтаром бягуць да склепа,
Каб убачыць чорта лепей.
Чорт паўзе са склепа ракам.
— О-ёй-ёй, святы дыякан!
І назаўтра ўсе ўжо зналі,
Як «святыя» зараблялі.

## ПАДАРУНАК

Яська — добры брыгадзір,
Залаты,
Шаўковы:
На работу не пайдзі,—
Ён не скажа слова.

Не дае нам у каршэнь.
А калі хто выйшаў,
Прасланяўся ў полі дзень —
Тры таму запіша.

Яська — добры, ён — душа.
Стог прадаўшы ў лузе,
Кажа хлопцам: —
Ціха... ша...
З вамі падзялюся.

Сеяў Яська лубін, лён —
Узышло ўсё рэдка.
Сеяў віку,
Грэчку ён —
Вырасла свірэпка.

Незвычайны ураджай,
Хто ні гляне — дзіва:
У пшаніцы — малачай,
А ў ільне — крапіва.

Мы крапівы той нажнём,
Звяжам у букеты,
Брыгадзіру паднясём
Падарунак гэты.

## П'ЯНІЦА

Нос у п'яніцы Мікіты,
Нібы моркаўка, пабіты.
Сінякі, гузы ля вуха
Сам нажыў, дык сам і чухай.
Давяла зараза-п'янка,
(Спапялі яе маланка!)
Бо гарэлку п'е Мікіта,
Нібы конь ваду з карыта.
Прыйдзе ён да магазіна —
Задрыжыць, нібы асіна.
Грошы вытрасе з кішэні —
Ну і мора па калені.
Людзі ходзяць на работу,
А гультай сабе ў ахвоту
Спіць пад кусцікам ля шляху,
Коні пудзяцца са страху.
Зарабілі людзі хлеба
І жывуць сабе, як трэба,
А яго хапае трасца,
Каб дзе што якое ўкрасці.

* * *

Ходзіць прымаўка людская,
А мараль у ёй такая:
— Калі хочаш ты прапасці,
Піць давай, збірайся красці.

## КУМ

Не, не верыць Савасцей
Ані ў бога,
                ні ў чарцей.
Ды глядзіць,
                каб кумам быць,
Каб вязці дзіця хрысціць.

Нават свечку возьме кум,
Цмокне бацюшку ў руку.
А як прыйдзе кум дамоў —
Лае зноў усіх багоў.
Дзе гулянка, госці, шум,
Савасцей там,
                бачым, кум.
За гарэлку,
                за пірог
У яго ізноў ёсць бог.

# ПА ДАРОЗЕ

Па дарозе ля бяроз
Янка ў вёску цэглу вёз.
— Но, пайшоў хутчэй, Каштан!
Конь паўзе,
як таракан.
Як мінуў сяло, масток —
З воза злазь цяпер,
браток,—
Конь не цягне ані-ні,
Хоць ты сам яго цягні.
— Вось кіёк вазьму ў руку,
Дык «пагладжу» па баку!
Навакола паглядзеў —
Ды кійка няма нідзе,
Сціснуў Янка кулакі:
— Каб цябе, Каштан, ваўкі!..
Кляў каня з апошніх слоў.
Да бярозкі падышоў,
Сканануў яе з пянька —
І не ўздрыгнула рука.
Кій бярозавы схапіў,
Па баку каня ўлупіў.
Конь угнуўся,
аж дрыжыць...
А каго тут трэба біць?

## УРАДЖАЙ

Працавалі мы вясной,
Як пчаліны дружны рой,
А таксама ў летні час,
Багацеў каб наш калгас.

Што пасеялі — ўзышло.
Узнялося, зацвіло.
Выйдзі ўвосень за сяло,
Глянуць люба — загуло.

Вунь за горкаю гарох
Пакруціўся — аж палёг,
А пшаніца, як сцяна,
З буйным коласам яна.

У нізіне ля ракі
Па паўпуда буракі
Ды, як бочкі, гарбузы,
Не падняць іх на вазы.

А капуста — проста цуд,
Што галоўка, то і пуд.
Вось які ў нас ураджай,
Хоць «Лявоніху» спявай!

## КРАНУЛІ ЛІХА

Заўжды ён выступае першым,
Прамова льецца гладкім вершам,
Дае у косці многім смела,
Не раз,
 не два каму балела.
Але каго сцябае, лае?
Скажу, над кім ён сілу мае,
Таго гатоў,
 нібы зубамі,
Як кажуць,
 згрызці з капытамі.
Паслухаеш — наводзіць жах,
А сам па вушы у грахах:
Нядаўна быў ён брыгадзірам —
Пагналі...
 Стаў ужо касірам,
Зрабіў вялікую растрату —
Сухенькім выскачыў. Па блату.
Пускае ў вочы людзям дым,
Каля начальства — падхалім.
Нарэшце людзі не стрымалі
Ды за грахі яго прабралі.
І вось калі кранулі ліха,
Вакол такую ўзняў шуміху,
Не дасць раскрыць нікому рот:
— Мяне ўжо знаюць,
 колькі год!..

— Паклёп!..
Хлусня!..
Тут злы язык!..
Назаўтра, чуем, з працы знік.
А дзе цяпер пасля лупцоўкі?

Загадчыкам адной сталоўкі.

## У ПАЖАРНЫМ ПАРАДКУ

Ездзіць з горада штодня
К нам на працу старшыня.
Жонка ў горадзе і дом,
Ды пад бокам «Гастраном».

У «Прамень» ляціць
«Масквіч»
За лясы, за рэчку Пціч.
Па гасцінцы на ўвесь ход
Старшыню імчыць на сход.

Недалёка той калгас,
Старшыня паспеў бы ў час,
Ды «Масквіч» забаставаў
І ні з месца, штось прыстаў.

Як прыехалі ў «Прамень» —
Дык займалася на дзень.
Спаць уклаўся гаспадар,
Не разбудзіць і пажар.

Ды карысці ад такіх,
Як агню ад дроў сырых.

## ЗАРАБІЎ

Пабудавалі новы дом,
Высокі, аж да неба,
Як цацка гожая кругом,
Здаецца, ўсё як трэба.

І атрымалі жыхары
На днях сабе кватэры:
Шаўцы, краўцы і дактары
І два пенсіянеры.

Вось «замачыць» рашылі дом,
Здаўна вядзецца гэтак,
Каб шчасце ззяла ў ім святлом,
Жанкі раджалі дзетак.

А на гулянку ад жыльцоў
Прараба запрасілі
І лепшых некалькі майстроў —
Яны ж нам дом рабілі.

Паселі важна ўкруг сталоў
Мужчыны і кабеты,
Нясецца пах ад пірагоў
І ад каўбас, катлетаў.

Прараб, падняўшы шклянку ўверх,
Прамовіў: — Дарагія,

Вам дом зрабілі не на смех,
О, рукі залатыя.

Акардэон іграў, труба.
Давалі госці духу.
Ды раптам штось прарабу: бах
Па носе і па вуху.

Спачатку ўзняўся лямант, крык.
На столь як паглядзелі,
Вядома стала: падаў тынк,
І ўсё тут зразумелі.

# БЫЎ ТАКІ ДЗІВАК

Кажуць, быў такі дзівак:
Дай гарэлкі — вып'е гляк,
Потым дзень увесь працуе,
Нібы польку ён танцуе.

Захварэў быў штосьці ён,
Не бярэ яго і сон.
Так баліць яму жывот,
Аж кідае хлопца ў пот.

Думаў ён і так і сяк:
«Можа, язва, можа, рак?»
Пахудзеў і стаў як цень,
Браць патрэбна бюлетэнь.

Ён да доктара: — Ой, боль!
Доктар кажа: — Алкаголь!
Больш гарэлкі ані ў рот,
Каб паправіўся жывот.

Спіцца соладка ўначы —
Днём хоць польку зноў скачы.

## ЮБІЛЕЙ

Меў юбіляр год пяцьдзесят,
Заслуг,
        пашаны вельмі шмат.
Яму жадалі як заўжды,
Каб не старэў,
        быў малады.
Чаму ж не выпіць тут віна?..
Гуляй,
        спявай хоць да відна.
Ля юбіляра за сталом
Сядзеў дырэктар каралём
На відным месцы, на куце,
Блішчэў ён зоркай між гасцей.
Тут заскакалі ля яго,
Нясуць найлепшага ўсяго:
Пірог, і торт, і каравай,
Грыбочкі,
        мёд,
            духмяны чай
І нават пачку папярос
Яму падсунулі пад нос.
— Наліць,— крычаць,— яму віна,
Сяргей Пятровіч, пі да дна!
Жадалі шчасця і дабра,
Пад столь падкінулі: — «Ура!»
Звінелі чаркі,
        граў баян,

Дырэктар цвіў,
нібы цюльпан.
А запытацца у гасцей:
Дык чый жа быў там юбілей?

# ЯЎХІМАВЫ НЯЎДАЧЫ

— Ну, пі, браток!
Я ж не шкадую,
Апаражні адну, другую,
З'еш селядца,
каўбаскі,
шпротаў
Ды што душы тваёй ахвота,—
Так пад'язджаў усё Яўхім
Да старшыні.
Сам п'яны ў дым.
Бо трэба ўладкаваць дзе сына:
— Хай не туляецца хлапчына.
Ёсць месца цёплае на складзе,
Там мёду,
масла ён накрадзе.
Калі не будзе разявакай,
То зажывём усе са смакам.
А старшыню чамусьці знялі...
На працу сына не прынялі,
Зубамі скрыгатаў Яўхім,
Хадзіў расстроены зусім.
З нуды курыў,
курыў,
курыў.

Сказаў:
«Ну, чорт яго бяры!..»

На блат уся пайшла зарплата.
Пазычыў грошай ён у брата.
І зноў купляў каньяк і віны,
Закускі, як і быць павінна.
Да старшыні прыстаў другога,
Маліцца стаў,
як перад богам.
І так ён лашчыўся,
скакаў...
А той паслухаў ды пагнаў.
Растраціўся Яўхім нямала,
Таму і жонка бушавала:
— Ах выпівака ты,
дурніца,
Каму яшчэ пачнеш маліцца?
Ды з качаргою да Яўхіма
І адхрысціла падхаліма.

## ШКОЛЬНЫЯ ГУМАРЭСКІ

Як дырэктарам ён стаў,
Шыльду, плот пафарбаваў.
Паглядзіце, кажа, цуд!
Школа нібы інстытут.

Зазірні ж у педпрацэс —
Там, як кажуць, цёмны лес...
Глянь на школьны агарод —
Там палын вышэй за плот.

* * *

Строгі завуч стаў Таран —
Патрабуе заўжды план,
А без плана ні на крок
Не дапусціць на урок.

Раз загадчык райана
План спытаў у Тарана.
Апусціўшы нізка нос,
Кажа ціха: — Не пры... нёс...

* * *

Расхваліўся неяк хлус,
Кажа: скончыў я педвуз,
Але нам даўно вядома,
Што не мае ён дыплома.

* * *

Ён з начальствам — панібрат,
Дык узяў нагрузкі шмат,
Так працуе цэлы год,
Як мядзведзь гародзіць плот.

* * *

З намі Клаўдзія Раса,
Як пякучая аса,
А з дырэктарам Раса
Проста — мілая ліса.

* * *

Ён вядзе літаратуру,
Ён вядзе і фізкультуру,
Нават фізік, хімік ён
І, нарэшце,— пустазвон.

# У ПЕРАПЫНАК

Быў у школе я адной
Неяк ранняю вясной,
Бачыў там бясплатна «цырк»...
І ў блакнот алоўкам — чырк.

Перапынак... Вольны час.
У настаўніцкай якраз
Завуч Ціт Пятровіч Кот
Мовіў смешны анекдот.

Шмат было цікавых слоў.
Зацікавіў ён сяброў,
Бо мастак на слова Кот,
Хоць бярыся за жывот.

Зазвінеў даўно званок.
Клікаў ён усіх на ўрок.
Не падняўся ані хто,
Хоць давай званкоў тут сто.

За сцяною шум і крык,
І пачаўся ў класе «цырк»...
Вучні лезуць аж пад столь,
Паламалі парты, стол.

Не стрымаў «званар» Кашэль,
Ён дзяцей, нібы мышэй,

Разагнаў ва ўсе бакі,
Дзядзька гэта ў нас такі!

Вось пачуў аднекуль Кот,
Што ідзе інспектар Крот.
— Прыбаўляе,— кажа,— крок.
Ну, браткі, хутчэй на ўрок!

Пуста ў класах, ні душы,
Хоць ты сценам што кажы,
Бо дзяўчынкі і хлапцы
Паўцякалі, як зайцы.

Скажам зараз карацей:
Біць нас трэба за дзяцей.
А найбольш хвастаць Ката
З галавы аж да хваста.

# КУПІЛІ

Ён супраць быў падхалімажа,
Калі каго ды хто падмажа,
Шумеў нястрымна: «Падхалім!
Не месца ў нас цяпер такім».

Калі ў начальнікі прабіўся,
Сам з падхалімамі здружыўся.
І, як яго купілі проста,
То й прададуць яго прахвосты.

## САМАГОНШЧЫК КАНДРАТ

На пасёлку — дзесяць хат,
Ціха там жыве Кандрат.
Самагонку гоніць так,
Што як спірт гарыць
пяршак.
Хай к табе загляне госць —
У яго гарэлка ёсць.
Ліха дзядзьку не бярэ —
Ён не косіць,
не арэ,
На руку не сеў мазоль,
І жыве,
нібы кароль.
Вось наладзіў апарат
Самагонку гнаць Кандрат.
Ціха ў ноч.
Суседзі спяць,
І нікога не відаць.
Толькі стаў ісці пяршак,
Нацякло крыху у гляк —
Думаў дзядзька каштаваць,
Ды ля ганку стук чуваць.
Разгубіўся тут Кандрат:
— Ну папаўся,
вінават...
Падышоў ён да дзвярэй:
— Хто,— пытае,— на двары?

Адчыніў — аж гэта кот,
Ад парога шмыг пад плот.
— Ах ты, д'ябал, каб ты здох,
Утварыў перапалох.
Зноў настала цішыня,
Можна дзейнічаць да дня.
А пад ранак — шум і стук.
Дзядзька думае: — каюк.
Раптам чуе: — Адчыняй!
Не марудзь, гарэлкі дай.
Як не жыў,
прапаў цяпер,
Пэўна, міліцыянер.
— Не палохайся, Кандрат,
Гэта я, Мікола, сват.
— А... Міколка, мой сваток,
Ну заходзь ка мне, браток!
Апарат на поўны ход
Працаваў, як спіртзавод.
Кубак свату-дружбаку
Даў ён выпіць першаку.
— Дзякуй,— шчыра той казаў
І Кандрата абнімаў.
Так працуе дзядзька ноч,
Не заплюшчыць нават воч.
Днём гарэлку прадае,
А каму і так дае:
— На, Іванка, напавер!
Чалавек я, а не звер.
Кучу грошай награбе

І ўсміхаецца з цябе.
Ліха дзядзьку не бярэ,
Ён не косіць, не арэ,
І за наш, браткі, мазоль
Ён жыве, нібы кароль.
Ды нядоўга будзе так:
Сам згарыць,
як той пяршак.

## АЛА ШЧАСЦЕ ПРАГУЛЯЛА

Якіх не мела хлопцаў Ала?
Каго яна ні чаравала?
Былі ў красуні інжынеры,
Былі ўрачы і камбайнеры.
Усіх дзяўчына зганьбавала.
Высока нос свой задзірала,
Аж вось ні сніла,
ні гадала,
Як раптам замуж выйшла Ала.
З налёту, прама нечакана
Узяў бухгалтар з-пад Пружанаў,
Чарнявы хлопец і румяны,
Ну, проста бы намаляваны.
Не курыць нават,
вып'е ў меру,—
Не знойдзеш ганьбы кавалеру.
— О, шчасця лепшага не трэба,
Нібы само зляцела з неба.—
Не раз зайздросцілі суседкі,—
Такі жаніх надзвычай рэдкі.
Не пражыла і месяц Ала,
А мужа хутка збракавала.
Заўжды надзьмутая ад злосці:
— Вось не хапае ў ім чагосьці.
— Чаго?
Сама, нібы не знае,
Як солі ў страве не хапае.

— Мужык мой,— кажа,— эт,—
куцця.
Не будзе, бачу, ў нас жыцця.
І вось — знайшла сабе шафёра:
— Ну з гэтым буду жыць без гора.
Як прыгалубіць
ды абдыме:
З магілы мёртвую падыме.
Нярэдка маецца халтурка,
Дык, значыць, будзе чарнабурка.
Жыццё ружовае так Ала
Сама сабе ўсё малявала.
Прайшло тры месяцы, і Ала,
Як бура ў дождж, забушавала,
Зараўнавала, закрычала,
На часткі б мужа разарвала.
Былі падставы ўсе на гэта:
У мужа, ўзрэза-крутасвета,
Апроч яе ёсць жонка,
дзеці
Ды шчэ якаясь на прымеце.
Тут Ала ледзь не абамлела,
Нібы пятля яе заела.

## ПРЫКУСІЛІ ЯЗЫКІ

Бабкі дома і на полі
Языкамі ўсё малолі:
— Ці не чулі вы навіну:
Быў Рыгор учора ў Ніны.
— Ды яна ж яго не варта,—
Гаварыла цётка Марта,—
Рослы ён,
        прыгожы з твару...
Не, яна яму не пара.
Ды на гэткія развагі
Не звяртаў хлопец увагі.
Хлопец з Нінай пашаптаўся
Ды ў нядзелю запісаўся.
Не красуня, праўда, Ніна,
А звычайная дзяўчына.
Але што каму па густу,—
Хто есць рэдзьку, хто капусту.
Год за годам — як гадзіна.
Ніна трох сыноў радзіла.
Скора будуць і дачушкі.
Забаўляй,
            цалуй ды гушкай.
Ладзяць,
            дружаць любы з любкай,
Нібы галубок з галубкай...
Бабкам плёткі не з рукі —
Прыкусілі языкі.

## МАША

Маша з выгляду кругом —
Лялька, як з вітрыны,
Вочы свецяцца агнём,
Шчокі — журавіны.

Хлопец сумны з нейкіх пор
Закахаўся ў ружу.
Ён выдатны камбайнёр,
Сам прыгожы, дужы.

Нібы ў гулкія званы,
Зазванілі людзі:
— Ах, кахаюцца яны,
Ну, вяселле будзе!

Ходзяць людзі сабіраць
Ураджай багаты.
Ну а Маша любіць спаць,
Кожны дзень ёй свята.

Дачакаўшыся цямна,
Падфарбуе губы
Ды бяжыць хутчэй яна,
Каб сустрэцца з любым.

Бо работа ёй — не ў смак:
Паліць, смаліць сонца.

А на танцах, як вятрак,
Круціцца бясконца.

— Разгадаў я твой манер,—
Камбайнёр ёй кажа.—
Не жаніцца нам цяпер,
Пагуляй больш, Маша!

* * *

Выйшла мілая ў гарод,
Бачу мілую праз плот.
Усміхаюся ўвесь час,
А яна мне — хоць бы раз.

Выйшла мілая ў садок,
Я зрабіў да мілай крок.
Эх!.. Зажмурыўся, абняў
Ды хутчэй пацалаваў.

Шчокі ў мілае — што жар...
Захінуў хутчэй свой твар...
Ды злаваць не стала, не,
Прытулілася ка мне.

Усміхнулася яна,
Як чароўная вясна.
Ясна ўсё тут, што любоў
Не бывае без садоў.

## АНТОН ЗЯЛЁНЫ

Антон Зялёны малады,
Жаніцца хлопцу — не гады.
А петушыцца ля дзяўчат.
Гуляць занадта любіць шмат.
І раптам закахаўся ён:
Не есць,
не п'е і страціў сон.
Бацькам прызнаўся неяк раз:
— Нявестку прывяду да вас.
А маці ў плач: — Малакасос!
Лепш вытры свой смаркаты нос!
Пакінуў тэхнікум,
таўкач.
Бяжыць на пляж,
гуляе ў мяч.
Пайшоў бацькам наперакор,
І загудзеў вяселлем двор.
Праходзіць год...
Радзіўся сын,
А на другі — яшчэ адзін.
Па вушы стала тых клапот:
Грэй малако,
вары кампот.
Няма схадзіць калі ў кіно.
— А правалілася б яно.
А жонка піліць — не гуляй,
Давай у хату ўсё купляй.

Вунь дзецям штонікі, пальто.
Патрэб сабралася пад сто.
Трасе кішэні.
А ў каго?
У бацькі роднага свайго.

## НАША РАЯ ШМАТ ГУЛЯЕ

Маці песціла дачушку,
Ну і выхавала птушку:
Не працуе час каторы
Ні на полі, ні ў канторы.

На работу людзі выйшлі,
Рая моцна спіць ля вішні.
Каб не сучка забрахала,
Дык бы дзень увесь праспала.

Маці мые сенцы, хату,—
Можа, прыйдуць хлопцы ў сваты?
Маці снеданне рыхтуе,
А дачушка твар глянцуе.

Дзе гармонік заіграе —
Віхрам круціцца там Рая.
Рая замуж хоча, рвецца,
Вочкі строіць і смяецца.

А як знойдзе Рая мужа,
Той няшчасны будзе дужа:
Запражэ яго, бы ў сані,
Ды на ім паедзе пані.

# КАВАЛЕР ТЫ, КАВАЛЕР...

Кавалер ты, кавалер,
Дзевак не палохай.
Пакамечаны каўнер,
Гальштук, як панчоха.

Памяло — не галава.
Чуб даўгавалосы.
Не стрыжэцца год ці два,
Заплятай хоць косы.

На даклад у клуб не йдзе,
Як другія хлопцы.
Бо ў Парасκі цэлы дзень
Мокне ў самагонцы.

Як набраўся тут, дзівак,
Ну і дагуляўся.
Моцна рэзнуўся ў шуляк,
Ледзь жывым астаўся.

Стаў тады як чорны дзень,
Невясёлы, хмуры.
Бег дамоў ён праз ячмень —
Паўцякалі куры.

# ЖОНКА ЛЯМАНТУЕ

У хаце жонка лямантуе,
Страшэнна мужа ўсё кляне.
Яна з ім цэлы дзень ваюе,
І не відаць канца вайне.

І так яго муштруе, рэжа,—
Піла на сорак пяць зубоў.
Ніхто яе не перабрэша,
Ды, мусіць, мала толькі слоў:

У ход ідуць гаршкі, каструлі
І нават з малаком збанкі.
Пасля у мужа — нос, як дуля,
На шыі ў жонкі сінякі.

А дзеці плачуць, енк у хаце,
Такой не бачыць бы вайны,
І болей туляцца да маці,
Хаця за ёю больш віны.

У поўнач сціхне навальніца...
А што каму дала яна?
Не есца у сям'і, не спіцца...
Вайна, шалёная вайна.

## АЖАНІЎСЯ ДЗЕД ПАХОМ

Не паладзіў дзед на днях
З бабаю сваёю.
Баба дзеда ў злосці — трах
Мокраю мятлою.
Як разгневаўся тут дзед:
— Навучу старую!..
Кій узяў, пайшоў у свет.
Стаў шукаць другую.
— Звар'яцееў ты, мой дзядок,—
Бабка кукавала,—
Каб табе ражон у бок,—
З гора праклінала.
Дзед стары, сівы ахрып.
Твар — адны разоры.
К маладзіцы ён прыліп
Юнаком бадзёрым.
Ажаніўся дзед Пахом,
Акрыліла радасць.
Загрымеў, што ўзімку гром,—
Весела на старасць.
...Нешта плакаць, сумаваць
Маладзіца стала.
Палажыла дзеда спаць
Ды на танцы — драла.



*Вершы*
*даўніх*
*гадоў*

## ВЁСКА, ВЁСКА МАЯ...

Вёска, вёска мая,
Развясёлая.
На цябе гляну я —
Стала новая.
Бо мінуўшчыны след
Ўжо губляецца.
Новы, новы свет
Паляпшаецца.
Замест цэркаўкі клуб
Пабудаваны,
Бярэ моладзь шлюб
Па-чырвонаму.

І ячэйка у нас
Згуртавалася,
Ў камсамол мы ураз
Запісаліся.
Трактар новы купіць
Не забыліся,
Па-другому жыць-быць
Навучыліся.

# КІНО

У Кандрата, майго свата,
У двары людзей багата.
У кіно ўся вёска наша,—
Як у свята на кірмашы.
Тут Пракоп, Антоля, Надзя,
Хто стаіць, а хто прысядзе.
Лезуць да кінамашыны
Дзеці, цёткі і мужчыны.
— Не чапай яе, Агнеша,
А то пальцы шчэ адрэжа.
— Верыш ты нячыстай сіле,—
Крыкнуў сівы дзед Даніла.
Тут машына як завыла,
Страсянуўся аж Гаўрыла.
— А няхай цябе маланка,—
Плюнуў спуджаны і Янка.
Цераз тры якіх хвіліны
Паказаліся навіны:
Горад, вёска, рэкі, лужы,
Пан пузаты ў капялюшы.
Аўтабус шалёна прэцца,
Ну якраз на нас, здаецца.
Бабы ўголас, з дзецьмі — драла,
Па кутках, куды папала.

## У СЯЎБУ ХТО ГАДАЕ, ТОЙ ХЛЕБА НЕ МАЕ

Вось прыказка ходзіць
Такая ў народзе:
Ў сяўбу хто гадае,
Той хлеба не мае.

Збіраецца сеяць,
То гляне на Месяц:
Калі стане ясны,
Дык будзе ён шчасны.

Пакуль гэта будзе —
Адсеюцца людзі.
Пасее з спазненнем —
Збярэ ледзь насенне.

Нічога і божа
Тады не паможа,
З высокага неба
Не скіне ён хлеба.

Хто ж сее парою,
Не будзе з бядою,
Багаццем на дзіва
Заззяе ўся ніва.

## ЖНЕІ

Ішла з вёскі
На палоскі
Маладая жнеяў раць.
Пан пузаты,
Гад пракляты,—
Наймаў жыта сваё жаць.
І сястрыцы,
Маладзіцы
Жалі збожжа, што чарот.
Пры рабоце
Плылі ў поце —
Не было вадзічкі ў рот.
Час мінулы,
Нібы куля —
Праляцела і няма.
Кожны кажа:
— Зараз наша
Пралетарская зямля!
Зноў у поле,
Ды на волю
Маладая выйшла раць.
Сваё жніва —
Ды шчасліва —
Узялася шчыра жаць.

# ВЫ НЕ СЛУХАЙЦЕ, БРАТКІ, ДЗЕ ШТО КАЖУЦЬ КУЛАКІ

Людзі здалі ўсе налогі,
Каб наш край не быў убогі,
Толькі ў вёсцы Касцюкі
Супярэчаць кулакі.
Лепей брэша за сабак
Языком Антон-кулак,
Ды грыміць яшчэ Пахом,
Не раўнуючы, як гром.
— Так і гэтак, дай ды дай,
Гэта ж ліханька, бяда.
Эх, няма дабра, браткі,
Бо грызуць тваё бакі.
І дурманяць беднякоў
Сваім доўгім языком.
Вось чаму і наш бядняк
Пазірае часам так.
— А дарогі — паглядзі,—
Ні праехаць, ні прайсці,
Падыходзіць і зіма —
Школы ў нас яшчэ няма.
Дык не слухайце, браткі,
Дзе што кажуць кулакі.
Плюнь, браток, і разатры,
Да увагі не бяры.

# ПРЫПЕЎКІ

## 1. ЛЬЕЦЦА ПЕСНЯ ЗАЛАТАЯ...

Льецца песня залатая,
Льецца песня за ракой.
Я па вуліцы гуляла
З камсамольскай грамадой.

У зялёненькім садочку
Славіць вечар салавей.
На даклад у клуб хадзіла,
Стала сэрцу весялей.

Каля рэчкі,
каля быстрай
Сенажаці зацвілі.
Пасяўную камсамольцы
Добра ў вёсцы правялі.

Эх, каліна ты, каліна,
Кучаравы твой гучок.
Эх, прыгожая дзяўчына
Носіць ленінскі значок.

Зацвітае сад вішнёвы,
Кружаць-кружаць пчолкі.
А мой мілы камуніст,
А я камсамолка.

## 2. ПОЙДЗЕМ НОВАЮ ДАРОГАЙ...

Пойдзем новаю дарогай,
Ганна, Тодар і Астап.
Мы не верым больш у бога:
Ні ў Ісуса, ні ў Хрыста.

Дзед старэнькі Апанас
Перастаў маліцца.
Стала моладзь ужо ў нас
Без папа жаніцца.

Ў чыстым полі на гары
Вырасла асіна.
Наша Мар'я у папа
Не хрысціла сына.

Ой ты, яблынька, без плоду,
А вакол сукатая.
Плача, што няма даходу,
Пападдзя пузатая.

Чаго, курачка, сакочаш,
Чаго табе сакатаць?
Скінуць рызу поп наш хоча,
Надаела ўжо цягаць.

## 3. Я НА ПРАСНІЦЫ СЯДЖУ...

Я на прасніцы сяджу,
Прасніца сасновая,

Ў майго Грышкі вусы чорны,
А я чарнабровая.

Мы, вясковыя дзяўчаткі,
Ды кудзелечку прадзём.
А мне Грышка лісты піша
Пра каханне кожным днём.

Ён у Мінску на рабфаку —
Другі год там вучыцца.
А ў руцэ маёй крутое
Вераценца круціцца.

Эх, ты, пража, мая пража,
Кужалістая мая!
Не сумуй па мне, мілёнак,
Па табе сумую я.

І кудзелечку сягоння
Скора, скора дапраду.
За цябе я выйду замуж,
А за Кліма не пайду.

## ЯК САБАКІ НАБРАХАЛІ, КАБ ВАЙНЫ Ў СЯЛЕ ЧАКАЛІ

У сяле ёсць два сабакі,
Мусіць, знае іх усякі:
Гэта поп — айцец Вавіла,
Ды кулак яшчэ Гаўрыла.

Набрахалі яны чутак,
Што вайна праз восем сутак.
Клім, Сымон, Захар ды Вера
Ўсхваляваліся без меры.

Была справа якраз гэта
Ў сенакос гарачым летам.
Не нажалі людзі хлеба,
А вайною, кажуць, трэба.

Дык хоць дораг у Мікіты —
Сем рублёў той пудзік жыта,
Але нашы грамадзяне
Расхвацілі ўсё дазвання.

А ў старой гандляркі Цывы
Разабралі соль на дзіва.
Нават разам пазаўчора
Купіў сват мой пудоў сорак.

Аж тым часам дні нядзелі,
Як заўсёды, праляцелі.

Любата, спакойна, ціха —
Ні вайны тае, ні ліха.

Так ці ж варта, мае братцы,
Ад сабак вам хвалявацца?
Калі дзе другі забрэша —
Страху ў вас тады без межаў.

Я скажу, не абмылюся,
Калі дзе сабака хлусіць,
Заставайся сам сабою:
Будзь заўсёды з галавою.

## БОГ НЕ ПАМОГ

Нездаровіцца жанчыне:
Нейкі боль пачула ў спіне.
Не да доктара лячыцца,
А ў царкву пайшла маліцца.
Нізка кланяецца богу —
Лоб пабіла аб падлогу.
І прасіла, і маліла,
Каб ёй даў здароўя, сілы.
Прадала яна яечкі,
А за іх купіла свечкі.
Мела шэрсці на спадніцу —
Аддала за плашчаніцу.
Ў пост скароміну не ела —
Пасінела, пахуднела.
Паглядзіце на Грыпіну,—
Хоць кладзі у дамавіну.
Не памог ёй «добры божа»,
Не памог і не паможа.
Узлавалася на бога,
Да ўрача пайшла нябога.
У бальніцы паляжала,
Паямчэла, ачуняла.
А ад божай дапамогі,
Пэўна б, выцягнула ногі.

## НЕ ГАНІ КАНЯ ДУБЦОМ, А ГАНІ АЎСОМ

А няхай цябе паралюш,
Кандрат,
Ля каня ты ходзіш вечна,
як гад.
Як пачнеш хрысціць дубінаю,
Аж махае конік грываю.
Вось затым конь і брыкаецца,
Ды баіцца, вырываецца.
А ты кажаш — знараві́ўся ён,
Ваўкарэзіна ды падла — не конь.
Паглядзі,
затым худзенечкі,
Нібы жаба,
і маленечкі.
Крыж ад сала нераздвоены,
Ад касцей тырчыць завостраны.
Не бі ж ты яго дубінкаю,
А кармі лепш канюшынкаю.
Будзе бегаць аж падскакваючы,
Галавою ды памахваючы.
І вазьмі ж ты ў галованьку
Вось людскую пагавораньку:
Не гані каня ніколі дубцом,
А гані,
гані заўсёды аўсом.

## ХЛЕБАНАРЫХТОЎКА

Разгарніся навакол,
Хлебанарыхтоўка.
Агітуй жа, камсамол,
За яе, ты, лоўка!
І пайшла, пайшла гудзець,
Проста міла, люба,
Агітацыя штодзень
У чытальнях, клубах...
Адзін гутарку вядзе:
«Так, браток, і гэтак».
Той чытае грамадзе
Навіны ў газетах.
Зацікавіўся Ціхон,
Ганна ды Куліна,
Кажуць, гэты самагон
Гнаць зусім пакінем.
Лішкі хлеба мы ляпей,
Ад пудоў да фунтаў,
Навязём цяпер хутчэй
Да хлебапрадуктаў.
Вось узяўся камсамол,
Ну, і ўзяўся лоўка!
Тэмпам шпаркім усюды йдуць
Хлебанарыхтоўкі.

## БУДЗЕМ ЖЫЦЬ ПА-НОВАМУ

Паглядзі на вёску Горы,
Кожны стогне, нібы хворы:
«Ай, Матруна ды Аўдоцця,
Прападаем у галоце».
Стаяць хаты, небам крыты,
А на плечы няма світы.
Ледзь цягаюцца канінкі,
Тырчаць востра адны спінкі.
А глядзі ўжо,
тым часам
Жыць як сталі у калгасах.
Паўраджайнела і глеба,
На стале ёсць хлеб,
да хлеба.
Дужа гладкія каровы,
Малака даюць удоваль.
І пасевы жнуць жняяркі,
Не баляць у жонак каркі.
Пачыналі ж з хлебам-квасам,
А цягнуліся ў калгасы.
Беднасць зараз іх не пудзіць
І жывуць сабе
як людзі.
Дык пара і нам узяцца
У калгасе згуртавацца.
Годзе жыць нам па-старому —
Гэта ясна і малому.

## У ЛЮДЗІ НАС ПРЫВЕЎ КАЛГАС

Сумны Сідар і Мікола,
Невясёлы наш і Сак:
Бульбы з'есць другі з расолам
І галодны ходзіць так.

Ані сыру, ані скваркі,
Хоць бы бульбачку ў раты.
А таму у хаце сваркі,
Бо пустыя жываты.

І сяляне разгадалі:
— Досыць, хлопцы, мець бяду!
Вось калгас тут згуртавалі,
Хваціць есці лебяду.

Зараз маем агранома,
Знае сеяць што, калі.
Ураджай цяпер, вядома,
Кожны год даюць палі.

Трактар, сеялкі, машыны
Абудзілі лес і луг.
Не нацешацца мужчыны,
Падкаваць занеслі плуг.

Ну, а хлопцы і дзяўчаты,
Як даўней калісь паны,

Носяць вопратку у свята.
Хараство — не рызманы.

Сала, масла, сыраў, хлеба
Еш, хоць пуп свой развяжы.
Пажыве цяпер, як трэба,
Той, хто вечна дрэнна жыў.

## ЗМЕСТ

На белорусском языке

Захар Яковлевич Бирала

НА СВЕТЛОМ ЧЕРНОЕ

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, Советская, 19.

Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастак С. А. Волкаў. Мастацкія рэдактары Л. Я. Прагін, М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар А. Т. Глушчанка.

АТ 07777. Здадзена ў набор 26/VI 1973 г. Падп. да друку 9/X 1973 г. Тыраж 5000 экз. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,0. Ул.-выд. арк. 1,83. Зак. 352. Цана 18 кап.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

**Бірала З.**

64 На светлым чорнае. Гумарыстычныя вершы. Мн., «Маст. літ.», 1974.

64 с. з іл.

У зборнік увайшлі творы аб жыцці калгаснай вёскі, пра людзей, якія сумленна жывуць і працуюць, змагаюцца супраць дармаедаў, падхалімаў, п'яніц і тарбахватаў.

Б $\frac{0743\text{-}002}{М\ 302(05)\text{-}74}$ 42-74

Бел 2

